


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

6 снежня 2002 года

№ 49 (398)
Выходзіць па пятніцах

Панос Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна

### Міс чыгункі-2002

ВАЛОЖЫН. Таццяна Клімовіч з Валожыншчыны перамагла ў рэспубліканскім конкурсе "Міс беларускай стальной магістралі-2002".
Конкурс праходзіў у Мінску сярод праваднiц пасажырскіх цягнікоў. Таццяна скончыла Яршэвіцкую сярэднюю школу і Мінскае чыгуначнае вучылішча. А цяпер яна студэнтка-завочніца Акадэміі МУС.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Угналі... «Запарожац»

МЯДЗЕЛ. У вёсцы Занарач непаўналетні вырашыў пакатацца і ўгнаў са двара "Запарожац".
Праўда, далёка не заехаў: не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у кювет і ўрэзаўся ў дрэва.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Снежань пачаўся з пажараў

СМАРГОНЬ. 2 снежня ў Крэве ў жылым доме здарыўся пажар, загінуў чалавек.
Гэта 69-гадовы брат гаспадара дома. Пажар узнік з-за парушэння правілаў пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі печкі. Пашкоджаны дах і перакрыцці дома.
1 снежня з-за няспраўнасці дымаходу печы згарэў дом у Крунях. Загінула 54-гадовая гаспадыня. У абодвух выпадках мяркуецца, што пацярпеўшыя былі п'янымі.

**Ірына РАБУШКА.**

### Прарыў на мяжы

АСТРАВЕЦ, СМАРГОНЬ. На мінулым тыдні супрацоўнікі ДАІ Смаргонскага РАУС на дарозе Смаргонь-Маладзечна знайшлі аўтамабіль "Мерседэс-200".
За некалькі гадзін да гэтага 40-гадовы жыхар Рыгі і яго літоўскі знаёмы на мяжы Літвы і Беларусі збілі гэтай машынай шлагбаум на памежным пераходзе "Катлоўка" і такім чынам трапілі ў Беларусь з тэрыторыі Літвы. У памежных раёнах увялі план "Перахоп". Машыну знайшлі, злодзеі ўцяклі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Падарункі інвалідам

ВІЛЕЙКА. 1 снежня ў гарадскім Доме культуры адбыўся канцэрт для інвалідаў, арганізаваны Вілейскай скаўцкай харугвай у межах праекта "Стварэнне грамадскага клуба "Віляйчане".
Пасля канцэрта інвалідам раздалі харчовыя падарункі, якія перадаў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Ігар Баслык.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

# Японскія «прыгоды»




Пётр Краўчанка, часовы паверанны Японіі ў Беларусі Акіра Татэяма і старшыня Маладзечанскага гарвыканкома Мікалай Чурсін. Здымак зроблены 21 жніўня, у дзень аднаго з апошніх прыездаў П. Краўчанкі ў родны горад.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Наш зямляк Пётр Краўчанка апынуўся ў цэнтры дыпламатычнага скандалу

**МАЛАДЗЕЧНА. Былы пасол Беларусі ў Японіі і Філіпінах Пётр Краўчанка на гэтым тыдні стаў героям інфармацыйных перадач і газетных артыкулаў.**

Шум ўзняўся з-за таго, быццам бы Пётр Краўчанка пасля таго, як прэзідэнт вызваліў яго з пасады, не збіраўся вяртацца на Радзіму.

Герой дыпламатычнага скандалу нарадзіўся ў Маладзечне. Тут жыве маці і сям'я роднага брата Аляксандра. З адным са сваякоў вечарам у сераду мы пагаварылі па тэлефоне. Радня даведалася пра канфлікт у суботу з перадачы на тэлеканале НТВ. У нядзелю Пётр Краўчанка патэлефанаваў радні з Японіі і сказаў, што з ім усё добра. Сачыць за развіццём падзей няцяжка: "дапамагаюць" тэлебачанне, радыё, газеты. Хаця, па меркаванні сваякоў, СМІ зрабілі з мухі слана. А гэта чуюць і сябры, і суседзі, і калегі.

Інфармацыйныя агенцтвы распаўсюдзілі інфармацыю, што на мінулых выхадных Пётр Краўчанка схаваўся ў службовай кватэры ў Токіо з ключамі ад пасольства і чэкавай кніжкай. У панядзелак дыпламат прыйшоў у пасольства і азнаёміўся з рашэннем аб адкліканні ў Беларусь. Тады ж ён заявіў, што вернецца ў Мінск у снежні. Яшчэ П. Краўчанка паказаў медыцынскую даведку аб тым, што ў яго перадінфарктны стан. І менавіта гэтым тлумачыцца затрымка былога пасла ў Японіі.

Сваякі мяркуюць, што гісторыю з ключамі і чэкавай кніжкай выдумалі і Пётр Краўчанка нікуды не хаваўся. Ён – законапаслухмяны чалавек, ведае працэдуры перадачы паўнамоцтваў і дзейнічаў згодна з інструкцыяй. А ў тым, што дыпламат захварэў, няма нічога дзіўнага, бо ў кожнага чалавека могуць узнікнуць праблемы са здароўем.

### Даведка «РГ»

Пётр Краўчанка нарадзіўся ў 1950 годзе ў Маладзечне. Закончыў гістарычны факультэт БДУ, кандыдат гістарычных навук. У 1990 годзе стаў народным дэпутатам БССР, у 1990-94 гадах працаваў міністрам замежных спраў. У 1995 годзе стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі, а ў пачатку 1998 года прызначаны паслом Беларусі ў Японіі і Філіпінах па сумяшчальніцтве.

**Падрыхтавалі Ірына РАБУШКА і Юрый КАРПІЦКІ.**

### Людзі гінуць на дарогах

Сёлета ў Маладзечне і раёне ў выніку ДТЗ загінуў 31 чалавек. Летась за 11 месяцаў – 13. Чаму так атрымалася? Аналізуе начальнік ДАІ Маладзечанскага ГРАУС Уладзімір Балкоўскі.



3-я старонка

### У што гуляюць дзеці

Пра самыя небяспечныя "гульні" ў падлеткаў расказвае начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага ГРАУС Барыс Сіняўскі.



4-я старонка

### Легіянеры ў адпачынку

Вярнуліся дадому маладзечанскія футбалісты-легіянеры. Уладзімір Карыцька дайшоў да чвэрцьфіналу ў гарадскім чэмпіянаце па більярдзе.



9-я старонка

■ МІНУЛАЕ

# Жыхар Геляноўскай брамы

**МАЛАДЗЕЧНА. У "РГ" у №44 ад 1.11.2002 года ў артыкуле "Гелянова – горад у горадзе" расказвалася пра арку ў Гелянове, што разбурылі ў 50-я гады. Пётр Койра жыў у гэтай арцы. Як усе тады казалі, жыў на верхатуры.**

Арку пабудавалі дзеля таго, каб ксёндз праводзіў малебны. Яна вельмі нагадвала Вострую Браму, што ў Вільні. На ёй былі адлюстраваны анёлы.

У той час П.Койру было 13 гадоў. У памяці захавалася, што малебны праходзілі ў выхадныя і святочныя дні. Можа, і ў будні, але ў хлапчукоў жа аніякай цікавасці да гэтага не было. Памятае, як ксёндз узбіраўся на выступ аркі, абгароджаны борцікам, і адтуль вёў малебны. На гэтай вышыні была невялікая кладоўка, дзе і жыў потым Пётр Койра.

Сам ён са Здземелева. Гэты раён Маладзечна ў мінулым — ваенны гарадок. Пётр памятае, як там стаяў полк польскай кавалерыі. Пётр Койра працаваў у Здземелеве да вайны.

27 гадоў адпрацаваў у арганах. 15 з іх быў начальнікам крымінальнага вышуку. Цяпер ён на пенсіі. Дапамагае гадаваць унучку і трох унукаў. Больш за 40 гадоў жыве ў Гелянове. Недалёка ад дому агародзік разбіў, 3 яблыні і 1 елку пасадзіў. Часта мінулае ўспамінае, пра жыццё ў арцы.



Цяпер Пётр Койра – пенсіянер.
Фота Ірыны РАБУШКІ.

Вядома, час пасляваенны складаны. Ні ежы, ні жылля не было. Таму кожны трымаўся, як кажуць, за саломінку.

У ліпені 1948 года 22-гадовы сяржант міліцыі Койра разам з 26-гадовай жонкай пераехалі ў новае жыллё, на верхатуру. Гэта Геляноўская арка. Сваю "кватэрку" яны купілі за 500 рублёў у шафёра дзяржбяспекі. Для параўнання, буханка хлеба тады каштавала 100 рублёў. На аклад Пятра можна было купіць 5 буханак.

Грошы шафёр з іх узяў за тое, што зрабіў адзінае невялічкае акенца (накшталт сучаснай форткі) з адной шыбінай. І за тое, што склаў плітку для абагрэву. У арцы сям'я Койраў стала другімі жыхарамі. У "спадчыну" шафёр пакінуў ім тазік і металічны ложак, пад які можна было паставіць чамадан. Больш у пакоі нічога нельга было паставіць, бо ён быў памерам 2,5х3 і вышынёй у 2 метры. П.Койра гаворыць, яшчэ крыху і ўпёрся б галавой.

Прадукты дома не залежваліся. Што купілі, тое адразу і з'ядалі. Купаліся, мылі бялізну, адзенне ў тазах. За вадой хадзілі ў цяперашняе памяшканне драматычнага тэатра. Зімой таялі снег. Занесці ваду ў "хату" было складана. Бо драўляная лесвіца была вельмі крутая і хісткая, "хадуном хадзіла". А вышыня, на якой знаходзілася жыллё, — прыкладна трэці паверх. Са смехам Пётр успамінае, як на арку радые прымайстравалі. Да двух гадзін ночы спаць не давала. Дык ён не вытрымаў і заткнуў яго мешкавінай. Маўляў, толькі хрыпела. На жаль, радавацца давялося мала.

У лютым 1949 года Койры, як кажа Пётр, збеглі з гэтай кватэры. Канешне, святло толькі ад газніцы. Холадна вельмі: у 2-3 гадзіны ночы ўжо немагчыма было спаць. Кватэрка вельмі хутка астывала. А ў сям'і павінна было нарадзіцца дзіця.

15 сакавіка на свет з'явіўся сын Пеця. Праз 10 гадоў нарадзілася дачка Света. Сям'я змяніла яшчэ 9 кватэр. У дзесятай засталася. Да цяперашняй пары жыве ў ёй Пётр Койра з дачкой і яе сям'ёй.

**Ірына РАБУШКА.**




Геляноўская арка, 50-я гады.
Фота Пятра КОЙРЫ.

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Інваліды вайны просяць дапамогі

Прэзідыум Маладзечанскай асацыяцыі інвалідаў вайны звяртаецца з просьбай аказаць асацыяцыі фінансавую дапамогу для набыцця хворым інвалідам лякарстваў.

Наш разліковы рахунак №3015203630010 код 738 у маладзечанскім філіяле ААТ "Белінвестбанк". УНН 600073728.

Рашэннем Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь арганізацыі, якія ажыццяўляюць дабрачынную дапамогу асацыяцыі інвалідаў вайны, вызваляюцца ад уплаты падаткаў з указанай сумы. І на гэтую суму змяншаецца сума прыбытку.

**Мікалай ПАГАРЭЛАЎ.**

■ КОНКУРСЫ

## Вызначылі лепшага гаспадара

**МЯДЗЕЛ. Сям'я Варановічаў з вёскі Чараўкі перамагла ў раённым конкурсе на лепшую сялянскую сядзібу.**

Два другія месцы на рахунку сям'і **Скармаховічаў** з вёскі Канстанцінава Слабодскага Савета і **Марыі Сіскевіч** са Старых Габ. Вызначаны яшчэ ўладальнікі трох трэціх месцаў. Усе атрымаюць грашовыя прэміі. Пры вызначэнні прызёраў браліся пад увагу выгляд дома, добраўпарадкаванне тэрыторыі, наяўнасць гаспадаркі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ЭКАЛОГІЯ

## Конкурс дзіцячых малюнкаў

**Падведзены вынікі мастацка-экалагічнага конкурсу сярод вучняў Маладзечанскіх школ па раздзельным зборы смецця.**

Яго ў рамках дацка-беларускага праекта "Лепшае навакольнае асяроддзе для Беларусі" праводзілі Маладзечанская дзіцячая бібліятэка (філіял №3) і маладзечанскае грамадскае аб'яднанне "Экалагічны цэнтр "Крыніца".

Першае месца – каманднае. Яго занялі вучні 6 "Г" класа сярэдняй школы №14. Яны атрымаюць 15 тысяч рублёў.

Два другія месцы і па 12,5 тысячы рублёў атрымаюць вучань 5 класа СШ №9 **Раман Сарока** і **Уладзік Сікорскі**. Праўда, у школу ён пакуль не ходзіць, але з'яўляецца актыўным чытачом бібліятэкі.

Трэцяе месца атрымалі за сваю работу вучні 6 класа СШ №7 **Косця Такушэвіч** і **Ягор Карлоўскі**. Іх чакае прэмія ў 10 тысяч рублёў.

Нагадваем, што працягваецца таксама і конкурс сярод чытачоў "Рэгіянальнай газеты" на лепшую ідэю па раздзельным зборы смецця. Як зацікавіць жыхароў раздзяляць самім сваё бытавое смецце па кампанентах? Як зацікавіць і якую б выгоду з гэтага мелі домакіраўніцтвы? Прапануйце сваю гаспадарскую кемлівасць і пішыце на адрас "РГ". Лепшыя ідэі будуць ганараваныя каштоўнымі прызамі. Вынікі гэтага конкурсу будуць падведзены на Новы год.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ТЭАТР

## Пад шчаслівай зоркай «Батлейкі»

**Цяпер у заснежаным лесе начное неба цёмна-сіняе. Залатыя зоркі зіхацяць на ім ярка і вольна. І хочацца дасягнуць іх у такой blізкай вышыні, дзе лёгка і радасна, дзе не маюць улады страсці, што кіпяць унізе, атручваючы нашы душы і робячы жорсткімі нашы сэрцы.**

А калі мы падымаем нашыя вочы да неба над горадам, то яно становіцца брудналіловым. І, на жаль, зоркі ў вышыні прытухаюць. Але адна свеціць усё адно, як бы цяжка ёй ні было рассейваць брудны смог.

Гэта — Віфлеемская зорка.

Як даўно быў той час, калі яна нарадзілася!

І як блізка.

Процьма зорак згасла, упала. Яна — гарыць.

Магчыма, яна адзіная сапраўдная. Што мы без яе?

І, магчыма, гэтая зорка суправаджае нас — тэатр лялек "Батлейка", што працуе ў горадзе Маладзечне. Нездарма мы ўспомнілі пра яе. Калядная зорка заззяла ў небе над горадам Віфлеемам ці Батлеемам. Таму яна для нас — шчаслівая. Нам вельмі хочацца падзяліцца з вамі шчасцем.

Хутка-хутка пачнуцца Навагоднія і Калядныя святы, таму "Батлейка" ветліва расчыняе дзверы для ўваходу да нас — у краіну вечнага дзяцінства і бясконцай радасці — усіх жадаючых стаць хоць трошачкі больш шчаслівымі.

Каляды — адзін з самых любімых святаў на Беларусі. Раней старыя казалі сваім унукам: "Прыйшлі Калядкі — бліны-ладкі, а разам з імі і цудадзейснік Дзядзечка Батлей са сваёй скарбонкай, у якой ён носіць сваё багацце — лялькі...". Вось ужо другі год тэатр захоўвае добрую традыцыю: сустракаць сваіх сяброўгледачоў падчас Новага года і Калядаў, а таксама ў кожную суботу і нядзелю ў сваім доме, дзе жыве сам Дзядзечка Батлей са сваімі лялькамі.

Хто такі Дзядзечка Батлей?! Гэта незвычайны чалавек, які дорыць людзям шчасце, усмешкі, вясёласць і добры настрой. Запрашаем вас пазнаёміцца з ім і сустрэцца з любімымі і добра вядомымі героямі нашых спектакляў падчас, калі здзяйсняюцца самыя неверагодныя і незвычайныя мары. Трэба толькі захацець і зрабіць крок да сустрэчы з цудоўным светам сваіх мар і жаданняў. Але цяпер мы вам не адкрыем усіх сакрэтаў нашага Навагодняга свята. Прыадкрыем толькі адну таямніцу: Дзядзечка Батлей адправіцца разам з вамі ў падарожжа па рацэ часу. У вандраванні вы зможаце апынуцца і ў Афрыцы, і ў Віфлееме. Дарэчы, Дзядзечка Батлей прывёз са сваіх вандраванняў самых сапраўдных Дзядулю Мароза і Снягурку, якіх так чакаюць кожны год усе людзі. Абяцаем толькі адно — будзе цікава і незвычайна. А вось пра астатняе вы зможаце даведацца толькі тады, калі на вуліцах запаляцца рознакаляровыя ліхтарыкі, у вокнах дамоў замігцяць прыгажуні-ёлачкі, у небе зноў заззяе Віфлеемская зорка, а вы такія прыгожыя ў сваім навагоднім убранні завітаеце да нас — у тэатр лялек "Батлейка", дзе вас усіх заўсёды чакаюць і вельмі любяць.

І будзьце ўпэўненымі, шчаслівая Віфлеемская зорка, што дорыць нам сваё святло і паказвае шлях да дабрыні і шчырасці, будзе дапамагаць і суправаджаць вас яшчэ доўгі час.

Мы знаходзімся: Маладзечна, вул. Драздовіча, 5"В".

**Даведкі па тэлефонах:** 5-36-73, 6-84-27.

### Рэпертуар Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» на снежань 2002 года

| | |
|---|---|
| 7.12, субота, 12-00 | А. Жугжда **"Казкі з куфэрка"** |
| 8.12, нядзеля, 12-00 | С. Кавалёў **"Заяц варыць піва"** |
| 14.12, субота, 12-00 | І. Сідарук **"Меч анёла"** |
| 15.12, нядзеля, 12-00 | Я. Сперанскі **"Незвычайныя спаборніцтвы"** |

З 20 снежня 2002 года па 10 студзеня 2003 года — **Калядное падарожжа па рацэ часу "Пад шчаслівай зоркай "Батлейкі"**.

Пачатак у 10-00, 13-00, 16-00.

Даведкі па тэл.: у Маладзечне 5-36-73, 6-84-27.

 



■ МАЛЫ БІЗНЕС

# Спрэчкі вакол хлеба

**МАЛАДЗЕЧНА. Уладальніца кіёска "Мінскі хлеб" на рынку райспажыўтаварыства Валянціна Балькіна лічыць, што яе выжываюць з рынку.**

Прадпрымальніца гаворыць, што на яе аказваюць ціск з боку выканкомаў і райспажыўтаварыства. У журнале праверак адзначана, што за 11 дней лістапада гарвыканкам наладзіў 4 праверкі асартыменту ў павільёне. Недахопы ўхілілі пасля першага візіту "вертыкальшчыкаў", але гэта не замінула работнікам гарвыканкома прыйсці яшчэ тройчы. Валянціна Балькіна ў заяве на імя старшыні Маладзечанскага райвыканкома зазначае, што "ў асабістай размове з намеснікам старшыні райвыканкома па эканоміцы **Наталляй Нікіценка** мне было ясна сказана, што працаваць на рынку я не буду і райвыканком знойдзе магчымасць убраць мяне з рынку. Тое самае сказала кіраўніцтва райспажыўтаварыства і рынку, якое спасылалася на Вашае вуснае ўказанне".

Кожны дзень Валянціна Балькіна прывозіць па 10-15 найменняў хлебабулачных вырабаў. Хлеб сталі купляць, ля павільёна ўтвараюцца чэргі. І нягледзячы на тое, што мінскі хлеб даражэйшы за мясцовы, якім гандлюе хлебазавод побач з павільёнам Балькінай.

Мінчанка хоча завозіць і маладзечанскі хлеб, аб чым паклапацілася загадзя. 1 жніўня прадпрымальніца заключыла дагавор з Маладзечанскім хлебазаводам аб пастаўцы мясцовага хлеба. Каб не выклікаць прэтэнзіі з боку гарадской і раённай улад, якія клапоцяцца аб тым, каб у гандлі былі мясцовыя тавары. Пачала гандляваць Балькіна ў сярэдзіне верасня. Першыя грошы паступілі на рахунак хлебазавода 16 верасня. Але на наступны дзень хлебазавод скасаваў дагавор, аб чым паведаміў у лісце №08/476 ад 17 верасня. Прычына – за 1,5 месяца з моманту заключэння дагавора Балькіна не зрабіла ніводнай заяўкі на хлеб. Але гэта тлумачыцца тым, што прадпрымальніца яшчэ не пачала работу, тым больш, за дзень да скасавання яна пералічыла грошы – 300 тысяч рублёў. Гэтую суму хлебазавод вярнуў праз тыдзень. Прадпрымальніца лічыць, што хлебазавод не хоча рэалізоўваць сваю прадукцыю. Па якой прычыне?

Разабрацца ў гэтым яна прасіць старшыню райвыканкома **Сямёна Касабуцкага** ў згаданай заяве, адпраўленай 22 лістапада. Райвыканкам на ліст павінен адрэагаваць на працягу месяца. Адказу прадпрымальніца пакуль не атрымала.

Калі пачаліся праверкі, Балькіна вывесіла сшытак водгукаў і прапаноў, у якім свае подпісы ў абарону павільёна пакінулі больш за 100 жыхароў горада і раёна.

Кожны базарны дзень на рынку Балькіна, па яе словах, прадае каля тоны хлеба і хлебабулачных вырабаў. Гэта 500-600 тысяч рублёў выручкі. Кропля ў параўнанні з хлебазаводскімі аб'ёмамі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



**У Маладзечанскім магазіне №61 прадаюць толькі мясцовы хлеб.** Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ ДАІ ІНФАРМУЕ

# Пешаходы, больш увагі на дарогах!

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета колькасць загінуўшых у выніку аварый на дарогах у горадзе і раёне вырасла больш, чым у 2 разы.**

Асноўны прырост прыйшоўся на долю пешаходаў. Толькі за лістапад загінула 5 чалавек.

## Хроніка здарэнняў

30 лістапада, 20-00. Легкавая машына-таксі наехала на пешахода, які пераходзіў дарогу ў Маладзечне ва неўстаноўленым месцы па Вялікім Гасцінцы. 51-гадовы мужчына загінуў на месцы.

29 лістапада, 18-00. Аўтобус, які належыць аўтапарку №4, наехаў на пешахода, жыхара раёна, які пераходзіў дарогу Маладзечна-Валожын на неўстаноўленым месцы ля Вязаўца. 57-гадовы мужчына загінуў на месцы.

26 лістапада, 17-30. Неўстаноўлены аўтамабіль збіў нецвярозага мужчыну, жыхара горада, які ішоў па дарозе ў раёне Лебедзева. 49-гадовы пешаход загінуў на месцы.

## Прычыны

Начальнік ДАІ Маладзечанскага ГРАУС **Уладзімір Балкоўскі** гаворыць, што ў асноўным – бяспечнасць пешаходаў і веласіпедыстаў. Яны часцяком пераходзяць праезную частку там, дзе пажадаюць. Павялічваюць колькасць ДТЗ дрэннае асвятленне вуліц у вячэрні і начны час, асабліва на раёне, і п'янства пешаходаў. У большасці выпадкаў гінуць нецвярозыя пешаходы.

75 працэнтаў здарэнняў з удзелам пешаходаў здараецца па віне пешаходаў. Работнікі ДАІ раяць памятаць пра гэта. Пешаходам у выпадку аварый горш, чым вадзіцелям, бо калі вадзіцеляў і пасажыраў жалеза можа абараніць, то пешаходы ў самым лепшым выпадку расплачваюцца за сутыкненні з транспартнымі сродкамі як мінімум драпінамі і пераломамі. Таму кожнаму пешаходу павышаная ўвага і ўстрыманне ад алкаголю не пашкодзяць.

Па статыстыцы апошніх гадоў, ніводны пешаход не трапляў у ДТЗ двойчы. Толькі, на жаль, апошнім часам вадзіцелі сталі больш "меткія" – для некаторых пешаходаў першыя ў іх ДТЗ адразу становяцца і апошнімі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Здарэнні на дарогах у Маладзечне і раёне

| | За 11 месяцаў 2001 года | За 11 месяцаў 2002 года |
|---|---|---|
| Колькасць ДТЗ | 94 | 126 |
| Загінула, чал. | 13 | 31 |
| Паранена, чал. | 101 | 117 |



**Маладзечна, пераход па Вялікім Гасцінцы ў раёне завода "Электрамодуль" – адно з самых небяспечных месцаў у горадзе. Пасля таго, як сцямнее, на дарозе часцяком здараюцца аварыі з удзелам пешаходаў. Адна з прычын – дрэннае асвятленне вуліц.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Курсы валют НБ РБ

| | 28.11 руб. | 5.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1900,00 | 1908,00 |
| Еўра | 1885,08 | 1910,77 |
| Злоты | 477,35 | 479,52 |
| Літ | 546,04 | 553,41 |
| Расійскі рубель | 59,67 | 59,89 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1900/1920 | 1900/1925 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 27.11 | 4.12 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10990 | 10990 |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | 4900 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 1 кг | 700 | 700 |
| Грэчка, 1 кг | 1000 | 1100 |
| Цукар, 1 кг | 865 | 865 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 910 | 1150 |
| Алей, 1 л | 1550 | 1550 |
| Маянэз, 200 г | 400 | 400 |
| Кава «Пеле, 100 г | 1900 | 1900 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | 550 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 700 | 700 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 550 | 550 |
| Капуста, 1 кг | 400 | 450 |
| Морква, 1 кг | 500 | 550 |
| Лімоны, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Апельсіны, 1 кг | 1500 | 1550 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1 л | 650 | 700 |
| Смятана, 1 л | 1800 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1800 |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | 3200 |
| Яблыкі, 1 кг | 750 | 750 |

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Грошы на адваката

**МЯДЗЕЛ. Жыхар райцэнтра выманіў у жанчыны з вёскі Новыя Габы 50 тысяч рублёў і прадукты.**

Сказаў, што грошы быццам бы патрэбныя для аплаты адваката для яе мужа, які знаходзіцца пад адміністрацыйным арыштам у міліцыі. Ну а разам і з яды мог бы перадаць таго-сяго. У адносінах да "пасрэдніка" ўзбуджана крымінальная справа за махлярства.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ АКЦЫІ

## СНІД пагражае ўсім

**ВІЛЕЙКА. 30 лістапада ў гарадскім Доме культуры адбылася дыскатэка з праграмай, прымеркаванай да Дня барацьбы са СНІДам.**

Актывісты скаўцкай харугвы арганізавалі першую ў гісторыі горада акцыю раздачы прэзерватываў з антыСНІДаўскімі налепкамі, гарадскі камітэт Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі правадзіў конкурс плакатаў.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ МАЛЫ БІЗНЕС

## Камп'ютэрныя клубы растуць, як грыбы

**МЯДЗЕЛ. Яшчэ пару месяцаў таму ў Мядзеле не было ніводнага камп'ютэрнага клуба, а на днях адкрыўся ўжо другі, і таксама ў цэнтры.**

Новы клуб называецца "Віртуальны рай".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

 

■ ПРАБЛЕМА

# У што гуляюць нашыя дзеці

**МАЛАДЗЕЧНА. Да 50 званкоў аб моцных выбухах у дварах паступаюць у міліцыю штодня задоўга да навагодніх святаў.**

Да Новага года засталося 25 дзён. Значыць, прыйдзецца вытрымаць больш за 1000 выбухаў. Гэта дзеці забаўляюцца з петардамі. Напэўна, кожны з нас неаднойчы палохаўся ад страшэнных перастрэлаў і разяўляў рот ад рознакаляровых суквецціў у небе. А мо' яшчэ і хтось пацярпеў.



Дарослыя і дзеці гуляюць у адно і тое ж – узрываюць петарды.

Фота IREX/Promedia.

Петарды ў Беларусі не вырабляюць. Асноўныя вытворцы – Кітай, Польшча. Начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх (ІСН) Маладзечанскага ГРАУС Барыс Сіняўскі гаворыць, што на сённяшні дзень петарды — гэта кантрабанда, якую перавозяць праз Расію.

### «Гульня» №1

Калі бацькі не займаюцца дзецьмі, то тыя трапляюць у рукі начальніка ІСН Барыса Сіняўскага. Ён гаворыць, што снежаньскія дні – самыя небяспечныя. Менавіта цяпер у магазінах адкрываюцца лаўкі па продажы піратэхнікі – хлапушак, агеньчыкаў... Усе беларускія піратэхнічныя тавары маюць ліцэнзію.

Паралельна з гэтым разварочваецца незаконны гандаль піратэхнікай. У невялікія гарады, і ў Маладзечна таксама, яны ў асноўным трапляюць з Лебядзінага рынку. Па словах Б. Сіняўскага, менавіта гэты рынак часцей называюць затрыманыя. Там купляюць тавар. Потым перапрадаюць. Прычым гандлююць піратэхнікай і 12-14-гадовыя дзеці. Каб закупіць тавар, яны эканомяць на ежы. Дарослыя гандлююць прама ў кватэрах. Бывае, маці ўцягваюць дзяцей. Такое было ў кастрычніку. Маці дала сыну 10 тысяч рублёў, каб ён падзарабіў — купіў і перапрадаў петарды. Паспеў выручыць 26 тысяч рублёў. Падлетка злавілі. Маці аштрафавалі на 22 тысячы 200 рублёў.

Другая сямейная гісторыя таксама пра маці з сынам. Яны гандлявалі піратэхнікай у сябе дома па вуліцы Драздовіча. У іх адабралі каля 500 "выбуховых адзінак".

Як правіла, дзеці двойчы не пападаюцца. Дарэчы, адказнасць за парушэнне ім не прадугледжана. Бацькоў штрафуюць да 3 мінімалак за тое, што ўхіляюцца ад бацькоўскіх абавязкаў. На распаўсюджвальнікаў складаецца адміністрацыйны пратакол і накіроўваецца ў падатковую інспекцыю, штраф – ад 10 мінімалак. Тавар канфіскуецца.

Самыя небяспечныя "выбуховыя" раёны – вуліца Касманаўтаў, раёны інтэрнатаў, дзе жывуць дзеці, а таксама каля школ вечарам; на раёне – Чысць і Радашкавічы.

### «Гульня» №2

Гэтую гульню Б.Сіняўскі называе хваробай. Часцей "гульцы" выхоўваюцца ў няпоўных сем'ях. Падлеткі крадуць з машын аўтамагнітолы. У асноўным з тых, дзе няма сігналізацыі. Здараецца, што і сігналізацыя не дапамагае. У гэткую "гульню" дзеці гуляюць вечарам ці ноччу.

Выбіваюць фортку ці іншым спосабам залазяць у машыну і выцягваюць аўтамагнітолу. Потым прадаюць яе дарослым за 5-10 долараў.

За гэты від крадзяжу прадугледжана крымінальная адказнасць ад 5 гадоў пазбаўлення волі. Злачынцаў, якім не споўнілася 14 гадоў, накіроўваюць у спецыяльныя ўстановы закрытага тыпу. Часцей у Магілёў. Каля 13 чалавек штогод адпраўляюць туды. Маглі б і больш, дык месцаў няма. У гэтым годзе паехалі ў Магілёў 8 дзяцей.

Дарослых, якія купляюць крадзеныя аўтамагнітолы, могуць пазбавіць волі да 6 месяцаў альбо аштрафаваць. Новую тэхніку ад скарыстанай, вядома, лёгка распазнаць.

Больш за ўсё крадуць магнітолы з машын, якія пакідаюць на вуліцах Скарыны, Будаўнікоў, Міру. На раёне крадуць значна менш, бо і машын там няшмат.

Б.Сіняўскі гаворыць, што дзіцячыя злачынствы самыя лёгкія па раскрыцці. Бо ў падлеткаў няўстойлівая псіхіка. Яны выдаюць самі сябе: сходзяць з дому, не ходзяць на заняткі ў школу. Дарэчы, падлетак да злачынства рыхтуецца доўга і на адным не спыняецца.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# Петарды – гэта блага ці добра?



**Таццяна Руткевіч, гаспадыня:**

— Дрэнна. Калі толькі хлапушкі, ды і то ў навагоднюю ноч, дзе шмат людзей.

Мой 15-гадовы сын таксама іх купляе ў распаўсюджвальнікаў каля калгаснага рынку. Кажа, узрываем дзеля інтарэсу і не пры людзях.



**Алена Паскаль, метадыст кінатэатра "Радзіма":**

— Гэта небяспечна для жыцця. Трэба штрафаваць тых, хто прадае петарды.

За 17 гадоў работы ў кінатэатры аднойчы і ў нас перапалох быў. Дзесьці гады з 2 таму ў фае петарду запусцілі. Добра, што ніхто не пацярпеў.



**Дар'я Федарэнка, сямікласніца:**

— Я і мае сябры петардамі не карыстаемся. Можна ж пацярпець.

Караць трэба тых, хто прадае і хто ўзрывае петарды. Напрыклад, штрафануць іх тысяч на 100.



**Анастасія Маркевіч, чацвертакласніца:**

— Ведаю, што хлопцы любяць кідаць петарды ў калыскі, на якіх вязуць бутэлькі. А стрыечнаму брату ў 9 класе пальцы адарвала. Петарда ў руках узарвалася. Больш не гуляе.

Я ж гэтых выбухаў баюся.



**Максім Ручыц, чацвертакласнік:**

— Дрэнна, канешне. Але сам на Новы год запускаю. Класна!

А ў школе неяк ва ўнітаз петарду засунулі. Унітаз разарвала.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Збег злачынец




АШМЯНЫ. Выпраўленчай установай адкрытага тыпу пры Ашмянскім РАУС адшукваецца асуджаны па артыкулу 174 ч.1 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь да 2 гадоў пазбаўлення волі Асіповіч Іван Вячаслававіч, 12.10.1952 г.нар. ураджэнец в.Вялікае Сяло Маладзечанскага раёна, які ўхіляецца ад адбыцця пакарання.

Ён да асуджэння пражываў у Маладзечне па вул.Драздовіча, д.2, кв.103. Іван Асіповіч не вярнуўся на ўстанову з кароткатэрміновага водпуску, і яго месцазнаходжанне цяпер не вядомае.

Прыкметы: на выгляд 50-55 гадоў, рост 168 см, каржакаваты, валасы русыя з сівізной, сярэдняй даўжыні, твар авальны, бровы шырокія, дугападобныя, вочы блакітныя, вушы прылягаюць да галавы, нос вялікі, пляскаты, шырокі, губы тонкія, падбародак масіўны. Асобыя прыкметы: на жываце шрам каля 6 см ад апендыцыту.

Грамадзян, якія ведаюць што-небудзь аб месцазнаходжанні адшукваемага, просім паведаміць у Ашмянскі РАУС па тэл. 36334, 22006, 02 ці ў бліжэйшы аддзел міліцыі па 02.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ МІНУЛАЕ

# Гісторыя Багданаўскага касцёла

## Касцёл Святога Міхала Архангела тройчы бурылі, але кожны раз ён узнаўляўся, як птушка Фенікс

**ВАЛОЖЫН. Недалёка ад Гальшан у вёсцы Багданаў знаходзіцца касцёл Святога Міхала Архангела.**

Гістарычныя звесткі даводзяць, што ён быў пабудаваны Пётрам-Міхалам Пацам. Да гэтага (да 1653 года) Багданаў быў уладаннем Багдана Сапегі. Асвяціў касцёл ксёндз-біскуп Міхал Слупскі, адміністратар Віленскі.

Касцёл служыў вернікам да 1812 года, бо затым быў моцна пашкоджаны французскай арміяй. У 1846 годзе будынак касцёла, тады драўляны, быў капітальна адрамантаваны. Яго паднялі на падмурак, атынкавалі, пафарбавалі, ашалявалі і падвялі пад страху на сродкі Ф.Рушчыца і ксяндза Ст.Сакалоўскага – францісканца, які служыў божую службу ў Багданаве.

Аб гэтым грамадскасць даведалася з памяткі, якая была ўмуравана ў падмурак касцёла з паперай, напісанай у 1846 годзе і знойдзенай амаль праз 150 гадоў.

У запісцы памерам 13х25 см расказваецца кароткая гісторыя Багданаўскага касцёла. Напісала яе Ганна Рушчыц (1800-1874), маці славутага мастака. З запіскі, напрыклад, даведваемся, што працаваў над новай святыняй "Бурак Адам з Зарэчнай на вялікую чэсць і хвалу божую". Новы будынак быў асвечаны 26 чэрвеня 1846 года. Адміністрацыйную ж ролю адыграў ксёндз Станіслаў Сакалоўскі.

Дзякуючы намаганням Данілевічаў, Чаховічаў, Рушчыцаў побач з касцёлам размясціўся батанічны сад з гадавальнікам баброў. Сядзіба набыла дагледжаны выгляд.




Так выглядаў касцёл Святога Міхала Архангела ў Багданаве ў снежні 1921 года. Фота з асабістага архіву Тэрэсы Аміляўскай.

Каля яго драўляных сцен неаднойчы праходзіў вядомы мастак XIX стагоддзя Фердынанд Рушчыц, вяртаючыся са шпацыру па родных яму мясцінах. Тут нараджаліся яго незабыўныя па прыгажосці палотны "Зямля" (1898 г.), "Дом у Багданаве" (1901 г.), "Млын" (1898), "Стары дом" (1903 г.).

Далей гісторыя распарадзілася інакш. Але на здымку, датаваным 1917 годам, багданаўскія жыхары аб гэтым і не падазравалі. Дрэвы навокал шапацелі, быццам бы нагадвалі пра страты людзей у першую сусветную вайну. Недалёка ад касцёла, усяго кіламетры за тры, залажылі цэлы пляц нямецкімі салдатамі. Да гэтага часу арол з непаразуменнем глядзіць на іх маленькія помнікі.

Пасля, пад Польшчай, касцёл меў дыхтоўны выгляд. Аж да трагічных падзей 1939 года, калі гісторыя зноў змяніла свой накірунак. У бок вайны. Але і ў вайсковай справе, і ў будзённым жыцці вера заставалася верай, а касцёл служыў людзям, абараняючы іх ад усялякай навалы.

Так доўжылася да 6 ліпеня 1944 года, калі нямецкія акупанты, пакідаючы Беларусь, спалілі касцёл і большую частку вёскі. Замест храма і жытла людзей чакалі выпрабаванні.

І ў 1945 годзе вернікі зноў пабудавалі касцёл. Кіраваў будаўніцтвам ксёндз Станіслаў Казлоўскі (1894-1979). Нягледзячы на атэістычнае стаўленне ўлад, будынак узвялі на тым самым месцы, дбаючы аб будучыні. Але ўлада змянілася, і старыя каштоўнасці былі адкінуты за непатрэбнасцю. Адзінота запанавала каля касцёла. Бо не было ксяндза, ды і думкі пра рэлігію забараняліся. А пасля будынак касцёла забралі пад склад. Але і тут святыня не зрабіла карысці новай уладзе. Хутка ад яе застаўся толькі фундамент – разабралі будаўнікі сацыялізму.

Ішоў час. Надышла пара вяртання да святыні. І ў пачатку 1995 года ўлады далі вернікам дазвол на рэстаўрацыю будынка касцёла. І 4 мая 1995 года пачалося будаўніцтва мураванага касцёла, удзел у якім прымалі людзі ўсіх веравызнанняў. Кіравалі будаўніцтвам францысканцы з Гальшанскай парафіі на чале з ксяндзом Рычардам Шпакоўцам.

Дапамагалі сродкамі і былыя гаспадары гэтага краю – сям'я Эдварда Рушчыца, сына славутага мастака і графіка, які спачывае тут на багданаўскім фамільным магільніку. Так нашчадкі яго аддаюць даніну павагі. І да гэтага часу яны ахвяруюць на касцёл, хоць жывуць у Польшчы. Але Бацькаўшчына не пакідае іх абыякавымі.

І вось, нарэшце, 29 верасня 1999 года касцёл расчыніў свае дзверы для людзей. На гэтую ўрачыстасць прыехала шмат гасцей з Гродна, Ліды, Гальшан. Радаваліся гэтай падзеі і багданаўскія жыхары.

А дрэвы ля касцёла ссеклі. Мо' каму ўсё ж не хапіла людскога цяпла?

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ АДУКАЦЫЯ

# Ці стане Маладзечна горадам студэнтаў?

**Маладзечна не аднясеш да горада студэнтаў. Між тым, навучальныя ўстановы ў ім меліся здаўна.**

У 1864 годзе ў горадзе адчынілася першая ў царскай Расіі настаўніцкая семінарыя, рэшткі будынка якой да нашых дзён захаваліся на тэрыторыі станкабудаўнічага завода.

За адкрыццём семінарыі бачны пэўны палітычны разлік самадзяржаўя.

Нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863 года, адным з кіраўнікоў якога быў Кастусь Каліноўскі, паказала расійскім уладам, што адной "пугай" утрымаць у пакорнасці бяспраўнае насельніцтва далучаных у час падзелу Рэчы Паспалітай беларускіх тэрыторый будзе няпроста. Таму спатрэбілася прыбегнуць і да палітыкі "перніка".

Менавіта ў такім кантэксце, на наш погляд, трэба разглядаць сам факт адкрыцця першай настаўніцкай семінарыі на нашых заходніх землях.

Апроч царкоўнаслужыцеляў, настаўнік у той час быў рэальнай фігурай. Ён аказваў вялікі ўплыў на думкі і справы людзей. Таму падрыхтоўка настаўнікаў з ліку мясцовага насельніцтва ставіла мэтай не толькі распаўсюджванне пісьменнасці сярод дзяцей, але і выхаванне падрастаючага пакалення і іх бацькоў у духу лаяльнасці да існуючага дзяржаўнага ладу.




Будынак Маладзечанскага гандлёва-эканамічнага каледжа. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Але гэта ўдавалася не заўсёды, бо ў асяроддзі семінарыстаў таксама было нямала вальнадумцаў. З Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі выйшлі актыўныя барацьбіты за лепшую народную долю, буйныя дзеячы навукі і культуры П.М.Шаранговіч, С.А.Рак-Міхайлоўскі, П.В.Мятла, А.Р.Капуцкі, І.А.Міхалёнак, паэт Міхась Чарот і іншыя.

Заснаваную на базе пяцікласнага павятовага вучылішча Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю з чатырохгадовым тэрмінам навучання за 50 гадоў закончыла дзве тысячы чалавек. У першую сусветную вайну ў 1915 годзе семінарыя пераехала ў Смаленск, дзе праіснавала да 1920 года.

Але падрыхтоўка педагагічных кадраў у горадзе на тым не спынілася. Пасля далучэння ў верасні 1939 Маладзечна з іншымі заходнімі землямі да Савецкай Беларусі ў 1940 годзе ў горадзе было адчынена педагагічнае вучылішча, а ў 1945 годзе пачаў працаваць Маладзечанскі настаўніцкі інстытут.

У горадзе засталося працаваць нямала выпускнікоў інстытута.

Выкладчыкам гісторыі працаваў Мікола Ермаловіч.

Інстытут даваў няпоўную вышэйшую адукацыю, і ў сувязі з узятым дзяржавай курсам на ўсеагульную сярэднюю адукацыю моладзі ён усё больш страчваў сваю перспектыву. Для выкладання ў старэйшых класах школы трэба былі настаўнікі з вышэйшай адукацыяй, а для працы ў малодшых класах дастаткова было закончыць педвучылішча. Таму праз дзесяць год, у 1955 годзе, інстытут спыніў сваё існаванне, а ў яго двухпавярховым будынку побач з сярэдняй школай №3 была адчынена дзіцячая спартыўная школа.

У наступныя гады вядомасць гораду прынеслі адчынены ў 1960 годзе ў будынку былога абкома партыі палітэхнікум, музычнае вучылішча і ўлікова-планавы тэхнікум. На гэтым фоне менш прыкметным было медыцынскае вучылішча, але і яно рабіла нямала для падрыхтоўкі сярэдняга медыцынскага персаналу.

Шкада, аднак, што гораду так і не давялося займець сваю вышэйшую ўстанову. Пытанне аб гэтым у пачатку 80-х гадоў даволі рэальна разглядалася ў кіруючых органах горада. У Міністэрства вышэйшай адукацыі было накіравана абгрунтаванае сацыяльна і эканамічна хадайніцтва аб адкрыцці ў Маладзечне інстытута тэхнічнага профілю ці яго філіяла. Меў да гэтага дачыненне і аўтар гэтых радкоў, маючы на ўвазе, апроч іншага, і перспектывы выкладчыцкай працы ў гэтай ВНУ. Але адказ з Міністэрства быў адмоўны, спасылаліся на тое, што з цягам часу не будзе каго вучыць у інстытуце і будзе праблема з працаўладкаваннем выпускнікоў.

Калі глядзіш на сённяшні стан прамысловасці горада, пачынаеш думаць, што чыноўнікі з Міністэрства, магчыма, мелі рацыю. Але развітацца назусім з марай бачыць Маладзечна горадам студэнтаў усё ж такі не хочацца.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# Прамысловы комплекс Маладзечна

## Пасля вайны ў Маладзечне з'явіўся цэлы шэраг прамысловых прадпрыемстваў саюзнага значэння

Аб наяўнасці яго ў даваенным Маладзечне казаць няма падставы. У горадзе былі прасцейшыя прадпрыемствы, неабходныя для жыццядзейнасці яго насельніцтва. Гэта хлебапякарня, мясакамбінат, млын, харчовы камбінат, швейная майстэрня, прамкамбінат...

Частка сучаснага прамысловага патэнцыялу горада ўтварылася ў выніку далейшай эвалюцыі гэтых прадпрыемстваў, у першую чаргу – прамкамбіната.

На базе яго ліцейнага цэха, галоўнай прадукцыяй якога былі пячныя дзверцы і засаўкі, вырас ліцейна-механічны завод, які потым ператварыўся ў станкабудаўнічы завод саюзнага значэння па выпуску свідравальных станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем.

Мэблевы цэх, які спецыялізаваўся на вырабе спружынных матрацаў і люстэркавых шафаў, стаў асновай для развіцця сучаснай мэблевай фабрыкі. Немалая заслуга ў гэтым яе былога дырэктара І.І.Ліпаўкі, першага ў горадзе сярод кіраўнікоў кандыдата эканамічных навук.

З цэха па металаапрацоўцы вырас завод металічных вырабаў, потым — завод дзіцячых веласіпедаў.

Цікавая перадгісторыя ў фабрыкі музычных інструментаў. Здаўна вёска Суднікі ў Вілейскім раёне славілася не толькі добрымі музыкантамі, але і майстрамі самаробных гармонікаў. Два з іх, браты Суднікі, і былі запрошаны ў Маладзечне стварыць арцель па вырабу гармонікаў, як гаворыцца, на арганізаванай аснове. Справа пайшла добра, і з арцелі вырасла гармонная фабрыка, якая стала потым фабрыкай музінструментаў. На паток была пастаўлена вытворчасць баянаў, але канкураваць гэтай прадукцыяй з вядомымі тульскімі баянамі было няпроста. Большую вядомасць фабрыцы ў былым СССР прынеслі дзіцячыя гармонікі, якія карысталіся попытам нават за межамі краіны.

І ўсё ж аснову прамысловага патэнцыялу горада склалі новыя прадпрыемствы, у першую чаргу заводы саюзнага падпарадкавання. Гэта «Спадарожнік», паўправадніковых вентыляў, два заводы металаканструкцый.



1963 год. Канвеер дзіцячых акардэонаў Маладзечанскай фабрыкі музычных інструментаў. Фота з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.



1972 год. Майстар фурнітурна-механічнага цэха Маладзечанскай фабрыкі музычных інструментаў Андрэй Шабалін знаёміць рабочых свайго цэха з пастановай ЦК КПСС. Фота з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.



1967 год, Маладзечанскі станкабудаўнічы завод. Майстар цэха Вячаслаў Васілеўскі і старшы кантрольны майстар Вячаслаў Войніч правяраюць станкі перад адпраўкай іх у Балгарыю. Фота з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.

Аб будаўніцтве ў горадзе сакрэтнага радыёзавода ведалі спачатку нямногія. Афіцыйнай версіяй узводзімых вытворчых карпусоў было будаўніцтва ў горадзе фабрыкі штучнага каракулю. Ды і пасля маладзечанцы мала што ведалі пра прадукцыю "Спадарожніка", бадай, тое, што там рабілі партатыўныя радыёпрыёмнікі, радыёстанцыі "Вілія", школьныя пеналы і іншыя тавары "шырокага спажывання". Між тым, галоўным прызначэннем завода быў выраб сродкаў касмічнай сувязі. Аб тым, што прадпрыемства паспяхова спраўлялася з пастаўленымі задачамі, сведчыць, напрыклад, той факт, што за паспяховае завяршэнне сумеснага савецка-амерыканскага касмічнага палёту "Саюз"-"Апалон" цэлая група спецыялістаў завода была ўдастоена Масквой высокіх урадавых узнагарод.

Завод за кароткі час стаў самым прэстыжным у горадзе прадпрыемствам, даў моцны штуршок у развіцці жыллёвага будаўніцтва, стаў прыкладам для іншых у арганізацыі працы і адпачынку. Вялікая заслуга ў гэтым І.М.Гурава, які стаў дырэктарам гэтага 10-тысячнага прадпрыемства. Шкада, што завод цяпер перажывае не лепшыя часы.

Зрывы ў пастаўках вагонаў з металам нярэдка ліхарадзілі работу завода металаканструкцый, якому, апроч вытворчай праграмы, нярэдка даводзіліся заказы асаблівай адказнасці і гонару. Калектыў завода, у прыватнасці, меў непасрэднае дачыненне да стварэння помніка-штыка ў Брэсцкай крэпасці-герої, металічнага перакрыцця Алімпійскага Палаца спорту ў Маскве, асвятляльных канструкцый на мінскім стадыёне "Дынама" і іншых аб'ектаў.

Трэба сказаць, што жадаючых пабудаваць свае прадпрыемствы ў Маладзечне было. Вабіла перш за ўсё зручнае геаграфічнае становішча – блізка да сталіцы рэспублікі і выдатныя транспартныя камунікацыі, як чыгуначныя, так і аўтамабільныя, а таксама наяўнасць рабочай сілы. Таму гарадскія ўлады мелі магчымасць дыктаваць ім свае ўмовы з такога пункту гледжання: што можа даць новае прадпрыемства гораду ў рашэнні жыллёвай праблемы, для развіцця гарадской гаспадаркі і т.п. Гэтыя пытанні загадзя абмяркоўваліся і занатоўваліся ў адпаведных дакументах, і абавязацельствы бакоў выконваліся. Так завод паўправадніковых вентыляў ("Электрамодуль") шмат зрабіў для будаўніцтва ў горадзе другой кацельні. З дапамогай прадпрыемстваў пабудаваныя гарадскія ачышчальныя станцыі, новы водазабор у Крыніцы і шэраг іншых аб'ектаў.

Размяшчэнне побач з Вялікім Сялом завода парашковай металургіі дало імпульс развіццю гэтай часткі горада.

Як вядома, адной са стратэгічных задач нядаўняга камуністычнага будаўніцтва была ліквідацыя розніцы паміж горадам і вёскай. Дык вось тады з'явіўся такі анекдот:

— Дзе ўжо спёрта мяжа паміж горадам і вёскай?

— У Маладзечне.

Сапраўды, вуліца Асіпенкі, якой заканчваўся горад, тут жа пераходзіла без усялякіх бачных прыкметаў у вясковую вялікасельскую вуліцу.

Пытанне аб уключэнні Вялікага Сяла ў межы горада ўзнікала неаднаразова, але тармазілася кіраўніцтвам Маладзечна, бо з яго вырашэннем трэба было ўзваліць на свае плечы нямала клопату аб камунальным добраўпарадкаванні былой вёскі. Завод жа парашковай металургіі дапамог развязаць некаторыя з гэтых праблем. І менавіта ўдзячнасць мясцовага насельніцтва дала дарогу ў вялікую палітыку яго дырэктару Г.Дз.Карпенку, бо яны аддалі за яго свае галасы ў 1991 годзе пры выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета рэспублікі.

Не ведаю, ці складаюцца цяпер у гарвыканкоме сумесныя з прадпрыемствамі мерапрыемствы па развіцці і добраўпарадкаванні горада. Можа, і ёсць. Але стан гарадскіх вуліц і іншых аб'ектаў наводзіць на сумныя думкі.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# Пакручасты лёс амерыканца

Варочаў Аляксей Гатоўка цяжкія скібы раллі свайго жыцця. Марыў аб добрых заробках, бо меў ужо сям'ю: жонку Палагею і дачушку Марыю. Біўся, як рыба аб лёд, у штодзённых намаганнях, каб палепшыць дабрабыт сям'і. А тут у 1912 годзе аб'явіўся вярбоўшчык ды запрасіў на працу ў далёкую Амерыку. Аляксей адважыўся, пакінуў родныя Більцавічы, што непадалёку ад Вілейкі.

### Пад зямлёй Амерыкі

Працаваў Аляксей ў горадзе Скрэнтане, штат Пенсільванія, на вугальнай шахце. Быў гэты занятак цяжкі і небяспечны. Спачатку шахцёр свідраваў электрадрылем адтуліны ў вугальным пласце, закладаў дынаміт і падрываў зарад. Затым горы вугалю грузіў шуфлем на ваганетку і адвозіў на пагрузчык, які падымаў вугаль на-гара. Праца, цяжкая і небяспечная, без свежага паветра і сонца, патрабавала вялікіх фізічных затрат. Але ён вытрымаў усе выпрабаванні. Зарабляў добра, нават пасылаў грошы жонцы. Неяк ледзь душой не загавеў: абвалілася парода і раздрабіла яму нагу. Але амерыканская медыцына паставіла яго на ногі. Яшчэ гады са два папрацаваў і рашыў: дадому... А ў Еўропе за гэты час адбушавала першая сусветная вайна (1914-1918 гг.). На радзіме прагрымелі дзве рэвалюцыі, наш край захоплівалі то бальшавікі, то немцы, то зноў бальшавікі, то палякі, то яшчэ раз бальшавікі... Калі ён вярнуўся, ужо ўсталявалася ўлада Польшчы. Пакінуў Расійскую імперыю 23-гадовым, а праз 9 гадоў сустрэла яго разрабаваная войнамі і акупацыяй родная Вілейшчына ў складзе Польшчы.

### На зямлі любай Радзімы

Удыхнуў роднае паветра "амерыканец" Аляксей Гатоўка ў 1921 годзе. За амерыканскія даляры купіў у Касуце млын. А тут якраз пан Багдановіч, уладальнік маёнтка Абадоўцы, распрадаваў землі ля Касуты. Узяў Аляксей Сафронавіч у банку пазыку ды набыў 20 гектараў той зямелькі. Не ведаў тады, што не столькі на радасць, колькі на бяду сабе і сям'і. Але дарваўся, нарэшце, да любімай справы: расціў хлеб, будаваўся, гадаваў дзяцей... У 1937 годзе ўздыхнуў з палёгкай, бо разлічыўся з банкам. А тут праз два гады грымнула новая вайна, якая зноў ахапіла пагібельным полымем шматпакутную Еўропу, а затым – і родную Беларусь.

У верасні 1939 года механізаваныя часці Чырвонай Арміі прабразгаталі праз святочную браму, якую ўзвялі жыхары Касуты.



На здымку сядзіць "амерыканец" Аляксей Сафронавіч. У другім радзе стаяць: справа – яго сын Васіль Аляксеевіч і ўнукі Аляксей і Віктар.

Фота 1970 года з сямейнага альбома Васіля ГАТОЎКІ.

### Каго і для чаго запісвалі ў кулакі?

Яго сям'ю ў ліку шасці, што набылі тады панскую зямлю, новыя ўлады аб'явілі "кулакамі". Яны мусілі плаціць недарэчна вялікія падаткі ўсімі відамі сельгаспрадуктаў, а грашовыя – за ўсю вёску. Зімой нарыхтоўвалі і вазілі лес і каменне. А ў перспектыве ім "свяціла" высылка ў Сібір, але да вайны бальшавікі не ўправіліся.

Закончылася Вялікая Айчынная вайна. У Касуце засталіся толькі дзве былыя "кулацкія" гаспадаркі. Адносіны ўладаў да іх сталі яшчэ больш жорсткія. Зноў падаткі, неспасціжныя розуму. Зноў вывазкі ў Сібір. Зноў давялося нарыхтаваць у катаржную будучыню запасы ежы, адзення, абутку... Усе тры дачкі Аляксея-"амерыканца" павыходзілі замуж. Сын Васіль вучыўся ў Мінскім медінстытуце. Гаспадары ўжо адлічвалі сёмы дзесятак... Як раптам красавіцкай ноччу 1952 года да "небяспечных ворагаў народа" патрабавальна забразгаталі пільныя ахоўнікі дзяржаўнай бяспекі. Сына Васіля "ўзялі" таксама ноччу на кватэры ў Мінску і пад узмоцненым канвоем даставілі ў спецэшалон. Там, у цялятніку, марнаваліся ягo старыя бацькі пад надзейнай ахоўвай. Сюды звозілі чарговых ахвяр...

### Іх злучыла бяда... На ўсё жыццё

У цялятніку Васіль пазнаёміўся з прыгожай дзяўчынай. "Шура, — назвала яна сябе. – Студэнтка трэцяга курса медінстытута. Родам з Баранавіч. Там жывуць мае бацькі".

Памылілася маладая студэнтка: яе бацькі таксама ўжо пакутавалі ў суседнім "вагоне". А вось іх, студэнта чацвёртага і трэцякурсніцу аднаго інстытута, раней не знаёмых, нявола пазнаёміла і зблізіла. Як аказалася, на ўсё жыццё.

Іх вывезлі ў Паўднёвы Казахстан, у пасёлак Абай-Базар. На спецпасяленне. У ссылку без следства і суда на 25 гадоў. Неабходна было рэгулярна адзначацца ў спецкамендатуры. За межы пасёлка – ні нагой: загрымiш на 25-гадовую катаргу. А за што гэтыя "спецы"?

Давялося Аляксею Сафронавічу працаваць вартаўніком на базе райспажыўсаюза (займеў "рай" у ссылцы!?). А сына Васіля прызначылі загадчыкам фельчарска-акушэрскага пункта, а праз паўтара года "літасціва" дазволілі яму і яго сяброўцы Шуры закончыць вучобу ў Ташкенцкім медінстытуце.

Благавешчанне 1956 года стала для Гатоўкаў сапраўды радасным: бацькам дазволілі вярнуцца дадому. Закончыўшы медінстытут з адзнакаю, вярнуўся ў Вілейку і Васіль Аляксеевіч. Ён спачатку працаваў у тубдыспансеры, а затым да пенсіі – урачом-анестэзіёлагам. Яго жонка Аляксандра Іванаўна загадвала тэрапеўтычным аддзяленнем.

Маладыя Гатоўкі выгадавалі двух сыноў, дачакаліся чатырох унукаў. Старэйшы сын Аляксей, названы ў гонар дзеда-"амерыканца", унаследаваў прафесію бацькоў: працуе на Мядзельшчыне галоўным урачом санаторыя "Сосны". Яго жонка Галіна – таксама ўрач. А малодшы сын Віктар, інжынер-механік, з жонкай Галінай – прадпрымальнікі.

А ў душах гэтай сям'і – горкі асадак дзікасці мінулага. За што такое свая ўлада без дай прычыны на працягу дзесяцігоддзя душыла іх сям'ю і грабежніцкімі падаткамі, і катаржнай прымусовай працай? Не супрацоўнічалі Гатоўкі з акупантамі, не падымалі рукі на ўладу, а іх ссылаюць у Казахстан! Хіба за тое, што амаль беззямельны бацька Аляксей Сафронавіч ірваў жылы ў шахтах ЗША, каб нешта прыдбаць для сям'і? Што працаваў з сям'ёй, як чорны вол, ладзячы свой мазольны дабрабыт?

Нялюдская ўлада неабачліва знішчыла дзесяткі мільёнаў такіх вось добрасумленных сельскіх працаўнікоў разам з хутарамі. І нават з цэлымі вёскамі! І атрымала тое, што мы цяпер маем, – поўны развал сельскай гаспадаркі.

А хто яе адродзіць? Калі? І як?

**Аляксандр НАРКЕВІЧ, Вілейка.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Экскурсія навучэнцаў ПТВ-21 у «горад-яблык»

**Казахстан, Алма-Ата, 2-9 студзеня 1982 года. Тут праходзіла паседжанне ўсесаюзнага клуба працоўнай славы "Цаліннік", якое было прымеркавана да 60-годдзя з дня ўтварэння камсамола ў Казахстане.**

У Алма-Ату з'ехаліся дэлегацыі з усіх саюзных рэспублік. Беларусь прадстаўлялі навучэнцы і выкладчыкі Маладзечанскага ПТВ-21, якое тады па паказчыках сваёй работы лічылася адным з лепшых у рэспубліцы. Лепшых навучэнцаў ПТВ-21 ЦК камсамола Беларусі захвоцілі пуцёўкамі ў Казахстан.

Дабіраліся ў Алма-Ату на самалёце. Калі беларуская дэлегацыя ўвайшла ў будынак ЦК камсамола Казахстана, дзе праходзіла ўрачыстая частка злёту, аркестр зайграў "Белавежскую пушчу".

Акрамя афіцыйных мерапрыемстваў, дзе кожная дэлегацыя выступала перад вялікай аўдыторыяй і прадстаўляла свае навучальныя ўстановы, былі і экскурсіі. Навучэнцы пабывалі ў нацыянальным музеі і пабачылі сапраўдную юрту. Запомнілася нацыянальная страва манты, нечым падобная на нашыя пельмені, паспрабавалі шашлык з пахам дыму ад саксаулу. Беларусы пабачылі горы, пабывалі на унікальным і да цяперашняга часу катку "Медэо". Экскурсаводы расказвалі, што Алма-Ата ў перакладзе на беларускую мову значыць горад-яблык. І сапраўды, ён падобны на яблык, калі паглядзець на яго з вышыні. А над горадам вісіць смог. Але ўнізе ён не адчуваецца.

З сабой у Казахстан беларусы ўзялі сурвэткі з нацыянальнымі ўзорамі, а таксама свае работы з саломкі і дрэва, якія выстаўляліся ў вучылішчы на конкурсах мастацкай і тэхнічнай творчасці.

Не абышлі ўдзельнікі злёту і рынак з усходнімі прысмакамі на любы густ. Ну і як набіваць у Казахстане і не прывезці адтуль цюбецейку?

**Юрый КАРПІЦКІ.**



# «Пан Тадэвуш» па-беларуску

## Валожынец Пятро Бітэль пераклаў знакамітую паэму Міцкевіча падчас зняволення ў ГУЛАГу

**Украінцы пераклалі паэму Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" 16 разоў, літоўцы - 11. Беларусы – 4. Адзін з іх зрабіў настаўнік Пятро Бітэль падчас зняволення ў сталінскім канцлагеры.**

У 1939 годзе, калі пачалася вайна гітлераўскай Германіі і Польшчы, маладога настаўніка мабілізавалі і адправілі на фронт. У войску Пятро Бітэль становіцца афіцэрам. Толькі выпадак выратаваў яго ад расстрэлу ў Катыні. Пятро вярнуўся ў родныя мясціны – на Валожыншчыну.

Працаваў настаўнікам, дырэктарам школы ў Валожыне. У час Вялікай Айчыннай вайны падтрымліваў сувязь з партызанамі. А ў чэрвені 1944-га Пятра разам з сям'ёй вывезлі ў Германію. Пашчасціла: у час аварыі цягніка ўдалося ўцячы. Хаваўся ў Польшчы, прычакаў вызвалення. Мабілізавалі ў Савецкую Армію, служыць давялося да канца 1945 года.

Закончылася вайна – і Бітэль вяртаецца да настаўніцкай працы. Зноў на Валожыншчыне. Але ў 1947 годзе звальняюць па лжываму абвінавачванню. Пятро Іванавіч становіцца праваслаўным святаром. Ды зноў – на кароткі тэрмін: у 1950 годзе арыштоўваюць, а следам асуджаюць на 10 гадоў зняволення ў папраўча-працоўных лагерах.

### Па этапах

Пачынаюцца лагерныя этапы. Кемераўская вобласць, Джэзказган, Омск... Будоўля, чыгуначная станцыя, медны руднік. Ліха, словам, хапіла. З успамінаў Пятра Бітэля: "..Я здружыўся з двума сябрамі нядолі, адным з якіх быў паляк Станіслаў Шаль, былы галоўны інжынер шклозавода "Нёман". ...Напрадвесні 1953 года Шаль атрымаў з Варшавы ад сваёй сястры харчовую пасылку. ... Здзівіліся... і невымоўна ўзрадаваліся, калі на дне скрынкі знайшлі "Збор твораў" А.Міцкевіча – салідную кнігу, нядаўна выдадзеную ў Варшаве. З вялікім хваляваннем пачалі мы гартаць старонкі несмяротнага "Пана Тадэвуша"...

Справа зразумелая, лагерны хлеб – не мёд. І таму дзіва дзіўнае, якую сілу павінна мець мастацкае слова, каб узяць чалавека ў новы і светлы палон, прымусіць пэўны час забыцца пра ўсе пакуты і страты! Пятро Бітэль узяўся за пераклад асобных радкоў "Пана Тадэвуша". Зразумеў, што на памяць толькі спадзявацца нельга. Але і паперы, алоўка не было, не дазвалялася іх мець.

Успамінае перакладчык "...На падлозе каля ... сцяны ляжаў пусты папяровы мех ад цэменту. Я ведаў, што сценкі яго трохслойныя, што сярэдні слой зусім чысты, дык адарваў сабе даволі значны аркуш...". А аловак перакладчык і вязень зрабіў сабе з алавянага дроту, схаванага ў кабельную абгортку. Паспрабаваў: піша!

Штодня вечарам у лагернай зоне са схovішча даставалася кніга, і Пятро перапісваў сабе 20-30 радкоў як заданне на дзень. А ўжо на заўтра, на рабоце, мармытаў сабе пад нос пераклад. А ў абедзенны перапынак, схаваўшыся ад лішніх вачэй, перапісваў тое, што датэтуль вусна пераклаў. "Праз некаторы час, — успамінае Бітэль, — мае сябры дасталі для мяне праз вольнанаёмных аловак і сшытак у клетку, а пасля і пяро. Спачатку была бяда з чарнілам, але яго замяніла мне прынесеная з санчасці санітарам-літоўцам зялёнка, якой там змазвалі зняволеным струпы ды балячкі".

Так была перакладзена "Кніга другая" паэмы Міцкевіча. Пятро Бітэль узяўся за "Кнігу першую". І калі ноччу перакладчык ужо працаваў над трэцяй сотняй радкоў, яго заспеў наглядчык. Давялося адседзець трое сутак у карцэры (за парушэнне: "Писал после отбоя какие-то дурацкие стишки"). І пераклад адабралі. На некаторы час Бітэль адмовіўся ад літаратурнай работы. Але сябры пераканалі: трэба!.. Ды і ўмовы лагерных крыху палепшыліся: памёр Сталін. Ужо ў Омску Бітэль завяршыў першы варыянт перакладу – была восень 1954 года...

### Рэцэнзія Танка

У 1955 годзе звольніўся вілейскі сябар перакладчыка. І павёз ён пераклад у Мінск. Беларускамоўны "Пан Тадэвуш" патрапіў да Максіма Танка. І ў лагер паляцела пісьмо вядомага паэта (ужо на той час лаўрэата Сталінскай прэміі): *"...резензия. По поручению секретариата Союза писателей Белорусской ССР я ознакомился с белорусским переводом т.Битэля П.И. известной поэмы Адама Мицкевича "Пан Тадеуш".*

*Несмотря на то, что отдельные места еще требуют некоторой доработки и поправки, в основном переводчику удалось передать на белорусском языке неповторимую прелесть этого классического произведения польской и мировой литературы.*

*Перевод поэмы сделан на высоком художественном уровне и является одним из лучших переводов этой поэмы Адама Мицкевича.*

*Максим Танк".*

Лагернае начальства было здзіўлена, але лагодна дазволіла знязь копію з гэтай рэцэнзіі. Пятро Бітэль напісаў Максіму Танку ўдзячны ліст. А свае недахопы патлумачыў адсутнасцю дапаможнай літаратуры. У хуткім часе Танк даслаў Бітэлю "Русско-белорусский словарь"...

### Вяртанне на радзіму

У Мінск Пятро Іванавіч вярнуўся ў 1956 годзе, якраз у дзень пахавання Якуба Коласа. Тады ж пазнаёміўся з Танкам, з Янкам Брылём. Па іх парадзе здаў пераклад (другі варыянт) у выдавецтва "Беларусь". Пазней замяніў той рукапіс трэцім варыянтам. Але ішлі гады, нават дзесяцігоддзі... Толькі ў 1998 годзе, дзякуючы кіраўніцтву тады Дзяржкамдруку і ініцыятыве Беларускага фонду культуры, у юбілейны для Міцкевіча час пераклад "Пана Тадэвуша" ў выкананні Бітэля пабачыў свет. Дарога з ГУЛАГа да асобнай кніжнай публікацыі атрымалася роўнай амаль палове стагоддзя. Пятро Іванавіч да гэтага часу ўжо і сам пайшоў з жыцця...

### «Ці шчыры ён?»

Незадоўга да смерці Бітэля, спярша завочна – праз ліставанне, я пазнаёміўся з гэтым сапраўды магутным чалавекам.

Тады, у 1991-м, Пятро Іванавіч жыў у Маладзечне. Сустрэча наша адбылася (як сведчыць дата пад адным з аўтографаў) 28 жніўня 1991 года. Пісьменніку і перакладчыку ішоў 80-ы год (сёлета – год яго 90-годдзя).

Ясныя вочы, светлы розум, спакойная размова, якая (з перапынкам на абед, як зараз памятаю – прыгожа сервіраваны стол) доўжылася з раніцы да добрага надвячорка. Што ўразіла ў той сустрэчы?.. Перакладчык ніякім чынам не выказваў сваю крыўду (хаця ад яе і звар'яцець можна было)... Спакойна канстатаваў факты, расказваў пра іншыя клопаты. Тады ўжо ў "Голасе Радзімы" друкаваліся раздзелы з яго краязнаўчай кнігі – пра Баруны. Кніга фактычна была гатовая. Бітэль ужо збіраўся перадаваць яе ў выдавецтва "Полымя". Яшчэ ў 1968 годзе пабачыла свет асобным выданнем гістарычная паэма П.Бітэля "Замкі і людзі". У 1984 годзе – зборнік "Паэмы". А ў 1990 – кніга вершаваных аповесцей "Дзве вайны". У 1989 годзе ў перакладзе Пятра Іванавіча была выдадзена аповесць легендарнага Юзэфа Крашэўскага "Хата за вёскай" (беларуска-польскі літаратар, які па абсягах сваіх наробкаў пераўзышоў Аляксандра Дзюма).

У 1986 годзе 74-гадовага літаратара прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Дзівіцца асаблівa няма часу (у 74 атрымаў пісьменніцкі білет, у 66 быў рэабілітаваны, у 56 пабачыла свет першая арыгінальная кніга, ужо ў перабудовачны час "Мастацкая літаратура" "заявярнула" Бітэлю арыгінальны гістарычны раман). А ён, паэт, перакладчык, краязнаўца, нягледзячы ні на што, паказваў прыклад жыццялюбства, здаровай упартасці, надзвычайнай трываласці перад любымі выпрабаваннямі. У 1970 годзе (58!) закончыў Мінскі педінстытут. Да 1963 года, пакуль не дазвалялі вярнуцца да настаўніцкай працы, быў святаром. І пісаў, перакладаў, нават калі разумеў, што хутчэй за ўсё зробленае на няпэўны час давядзецца пакласці "ў стол".

Сёння многае робіцца па ўшанаванні памяці Пятра Бітэля: раман яго намаганнямі **Міхася Казлоўскага** надрукаваны ў краязнаўчым часопісе "Куфэрак Віленшчыны". Да 90-годдзя перакладчыка шэраг мерапрыемстваў прайшоў на Валожыншчыне. Выдаць бы яшчэ разам усе пераклады Пятра Бітэля з паэзіі Адама Міцкевіча (акрамя "Пана Тадэвуша" яшчэ і "Конрад Валенрод", і "Гражына").

... У тую нашу маладзечанскую сустрэчу (памятаеце: жнівень 1991, дні пасляпутчаўскія), акрамя абедзеннага перапынку, было яшчэ колькі хвілін, што адарвалі ад размовы. Па радыё выступаў Алксніс (народны дэпутат СССР, "ястреб"). Пятро Іванавіч дадаў гук, пачаў услухоўвацца... А пасля трывожна зірнуў у мой бок, запытаўся ж як быццам у сябе толькі: "Ці шчыра ён гаворыць..?". Ужо не памятаю сутнасці таго завостранага публіцыстычна-палітычнага выступлення, а вось погляд вачэй і гэтае "Ці шчыры ён..." – і цяпер у памяці. Галоўныя, відаць, крытэрыі, што рухалі Бітэлем, дапамагалі яму жыць і працаваць – шчырасць і стрыманасць. Яны і гонар, і годнасць яго мацавалі.

### Хто яшчэ перакладаў «Пана Тадэвуша»

Першым за пераўвасабленне "Пана Тадэвуша" на мову радзімы Міцкевіча ўзяўся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. У 1858 годзе ён перадаў у Віленскі цэнзарскі камітэт рукапіс перакладу першых трох песень. Цэнзар Кукальнік адобрыў тэкст. Праз некаторы час выходзяць у свет дзве часткі. Кукальніка мяняе нехта Мухін – і ўжо тыраж арыштоўваецца. А следам беларускага "Пана Тадэвуша" і спалілі.

Наступны перакладчык паэмы – Аляксандр Ельскі. У 1892 годзе ў Львове выйшаў яго пераклад першай часткі. У турме пераклаў неўміручы твор Браніслаў Тарашкевіч. Яго праца пабачыла свет толькі ў 1981 годзе – амаль праз сто гадоў пасля перакладу Ельскага.

У 1985 годзе прыйшоў да чытача і пераклад "Пана Тадэвуша" ў выкананні Язэпа Семяжона. Выдатныя ілюстрацыі В.Шаранговіча дапаўнялі кнігу, якая сапраўды стала падзеяй у літаратурным жыцці Беларусі. Натуральна па-беларуску прагучалі словы Адама Міцкевіча:

*Літва! Бацькоўскі край,*
*ты як здароўе тое:*
*Не цэнім, маючы,*
*а страцім залатое –*
*Шкада, як і красы твае,*
*мой родны краю.*
*Тугою па табе*
*тут вобраз твой ствараю.*

Спадчына Адама Міцкевіча налічвае 16 тамоў. У паэме Міцкевіча "Пан Тадэвуш" – уклад жыцця, побыт мясцовай шляхты, шырокая панарама ўвогуле народнага жыцця ў Беларусі ў пачатку XIX стагоддзя, пейзажы Навагрудчыны, Налібоцкай пушчы. "Пан Тадэвуш" выходзіў на самых розных мовах сотні разоў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



**Вішнева, 19 кастрычніка 1981 года. Пятро Бітэль разам з жонкай Нінай Пятроўнай і праўнукам Алёшам. Муж і жонка Бітэлі пражылі разам 62 гады. Ніна Пятроўна перажыла мужа на 10 гадоў і памерла ў 2001 годзе. Абодва пахаваныя ў Вішневе. Праўнуку П. Бітэля Аляксею Бярэзіну цяпер 22 гады. Ён студэнт Беларускай акадэміі мастацтваў, аўтар ілюстрацый да дзедавай паэмы "Зялёная царэўна", намаляваў дом Бітэляў у Вішневе і партрэт свайго знакамітага дзеда.**

Фота з архіва сям'і БЯРЭЗІНЫХ.

■ ФУТБОЛ

# У пошуках сваёй каманды

**Няпростым атрымаўся гэты год для маладзечанскіх футбалістаў, якія выступаюць за межамі роднага горада.**

Ніводзін з іх не можа быць цалкам задаволены гэтым сезонам. Зразумела, у кожнага свая асобая сітуацыя, але ўсіх аб'ядноўвае адно – змена каманд на працягу года (ці жаданне зрабіць гэта цяпер у міжсезонні), пошук лепшага футбольнага хлеба.

## Карыцька

Вылучаецца, безумоўна, **Уладзімір Карыцька**. Ён сёлета выступаў у расійскай прэм'ер-лізе, уваходзіў у асноўны склад серадняка растоўскага "Растсельмаша", правёў 2 матчы за нацыянальную зборную. Летам Уладзіміра запрасілі ў раменскі "Сатурн-REN-TV", які вёў барацьбу за высокія месцы. На жаль, там замацавацца ў "аснове" не атрымалася, не гуляў увосень і за зборную.

**– Перад сезонам-2001 цябе запрасілі ў мазырскую "Славію", каб узмацніць яе чэмпіёнскі склад. Але ў тым годзе каманда літаральна развалілася. Чаму так атрымалася?**

– Каманда там была нядрэнная. Для мяне гэта быў першы досвед мужчынскага жыцця. Я ўліўся ў дарослы калектыў. Было цяжэй, чым у мінскім "Тарпеда-МАЗе". А праблемы, відаць, былі якраз у трэнеры. Я лічу, у рускімі гульцамі павінен працаваць рускі трэнер (у дадзеным выпадку для спрашчэння гутаркі пад азначэннем "руския" маецца на ўвазе і беларусы, і іншыя нацыянальнасці былога СССР – аўтар).

**– Разам з яшчэ двума гульцамі "Славіі" цябе аддалі ў арэнду славацкаму "Ружамбероку". Якія ўражанні ад далёкага замежжа?**

– Узровень там не надта высокі. Горш, чым было ў Мазыры.

**– Але ж славацкія каманды перамаглі беларускія ў еўракубках.**

– Яны лепш гуляюць у плане самааддачы, сапраўдныя байцы. А, напрыклад, тэхнічная падрыхтаванасць не такая добрая. Паказваюць іншы футбол. Імкнуцца гуляць проста, надзейна.

**– Што скажаш аб выступленні за маладзёжную зборную? Чаму не выйшлі ў наступны раўнд?**

– Добрая была каманда. Асабліва мне падабаўся калектыў. Дарэчы, хлопцы, што засталіся па ўзросту гуляць за зборную новага склікання, кажуць, што цяпер няма такога таварыскага калектыву. На жаль, нешта ў нас не атрымалася. Былі праблемы ў трэнераў паміж сабою, але, лічу, у няўдачах вінаватыя футбалісты.

**– Гэтай зімой ты адправіўся ў Растоў. Трэнер Анатоль Байдачны казаў, што можаш стаць адкрыццём сезона ў Расіі. Пераход у больш моцны "Сатурн" сведчыў, што цябе заўважылі, але на гэтым гульнявы рост пакуль спыніўся.**

– Пакідаць Растоў было шкада. На жаль, фінансавыя ўмовы кантракта не выконваліся, таму ён быў скасаваны. У "Сатурне" ж адчуў трэнерскі недавер. Каманда змагалася за 4-е месца, і трэнер Уладзімір Шаўчук, думаю, баяўся нешта мяняць у складзе. У выніку сталі шостымі, а ён падаў у адстаўку.

Як бы там ні было, але досведу ў мяне прыбавілася. Не мне меркаваць, прыбаўляю ў гульні ці не. Гэта лепш бачна збоку. Мне вельмі хочацца гуляць яшчэ лепш. На жаль, не заўсёды ўсё залежыць ад футбаліста. Быў рады выклікам у зборную. Гэта тое, да чаго імкнуўся. Нельга сказаць, што марыў выступаць на такім узроўні. Толькі гадоў у 19-20 паверыў у сябе.

**– Бліжэйшыя планы?**

– Адпачну і паеду ў Расію. Магчыма, застануся ў "Сатурне", магчыма, змяню каманду.



**Андрэй Мілеўскі (у цэнтры) яшчэ ў форме салігорскага "Шахцёра".**

Архіў "РГ".

## Мілеўскі, Вяжэвіч і браты Макоўскія

Андрэй Мілеўскі пачынаў сезон на старым месцы ў салігорскім "Шахцёры", адгуляў там усе матчы першага круга. А на працягу другога круга выступаў ужо за мінскае "Дынама". Цікава, што да гэтага пераходу паказчыкі салігорцаў і мінчан у табліцы былі прыкладна роўныя, а вось завяршылі каманды чэмпіянат адпаведна на трэцім і сёмым месцах. Андрэй атрымаў права на прысваенне бронзавых медалёў, бо правёў за "Шахцёр" палову ўсіх матчаў.

**Міхаіл і Уладзімір Макоўскія** сёлета клуб не мянялі. Летам іх "Закарпацце" з Ужгарада пакінула вышэйшую ўкраінскую лігу. Яны працягвалі сваё выступленне за гэтую каманду ў першай лізе, а цяпер атрымалі прапанову з "вышэйшалігавай" сімферапальскай "Таўрыі". Праўда, дакладна казаць пра пераход пакуль нельга. Пяцігадовыя кантракты з кіеўскім "Дынама" закончыліся, але блізняты атрымалі настойлівую прапанову прадоўжыць кантракты яшчэ на два гады.

**Аляксандр Вяжэвіч** лічыць мінулы сезон самым няўдалым у сваёй кар'еры як з пункту гледжання паказанай гульні, так і ў матэрыяльным плане. Ён вясной прыйшоў у сталічны "Тарпеда-МАЗ", каб быць бліжэй да сям'і. На жаль, пры расійскім трэнеры Сяргею Францаве ў склад не трапляў. Калі ж каманду ўзначаліў Сяргей Бароўскі, то Вяжэвіч атрымаў траўму, так да заканчэння сезона і не згуляў. Да таго ж у аўтазаводскім клубе чатыры месяцы не плацілі зарплату. Цяпер Аляксандр думае пра тое, каб завяршыць кар'еру. На прапанову аўтара правесці сезон у Маладзечне перад тым, як павесіць бутсы на цвік, адкліКнуўся з задавальненнем. Толькі зазначыў, што ў нашым горадзе нават нежаданыя хлопцы не затрымліваюцца з-за дрэннага фінансавага становішча, а яму ж трэба карміць сям'ю.

Застаецца дадаць, што ў родным горадзе нашы легіянеры бавяць час недарэмна: Карыцька і Вяжэвіч гулялі на турніры ў ЗМК, а Макоўскія і Мілеўскі перамаглі мясцовую моладзь на імправізаваным турніры на гуме на гарадскім стадыёне. Карыцька паўдзельнічаў у чэмпіянаце горада па більярдзе і дайшоў там да чвэрцьфіналу.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ **БІЛЬЯРД**

**На чэмпіянаце горада сабраліся 32 удзельнікі.**

Спачатку былі матчы ў групах, а пачынаючы з 1/8-й фіналу, пайшла алімпійская сістэма. У паўфіналах **Ігар Агузаў** і **Генадзь Скапец** перамаглі адпаведна **Уладзіміра Патапава** (4:0) і **Віталя Вінярскага** (4:2). У фінале 21-гадовы Агузаў быў мацнейшым за 32-гадовага Скапца з лікам 5:0.

■ **БАСКЕТБОЛ**

**ВАЛОЖЫН. Прайшоў занальны турнір абласнога чэмпіянату сярод жанчын.**

Гаспадыні перамаглі ўсіх і прабіліся ў заключны этап з удзелам васьмі мацнейшых каманд вобласці, які пройдзе ў сярэдзіне снежня. Вось вынікі матчаў валожынак з сапернікамі адпаведна занятых месцаў у кругавым турніры: Мінскі раён (51:35), Вілейскі раён (56:51), Маладзечна (44:34), Маладзечанскі раён (58:24). Вылучыліся ў складзе пераможцаў **Іна Балабан, Вольга Купцэвіч** і **Інга Малашкевіч.**

■ **ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**

**КАЛІНІНГРАД. На традыцыйны турнір па лёгкай атлетыцы па ўзросту 1986-88 г.н. сабралася пятнаццаць каманд з пяці краін (Расія, Беларусь, Літва, Латвія, Польшча).**

У камандным заліку пасля гаспадароў і літоўцаў з Клайпеды трэцяе месца, як і летась, занялі маладзечанцы (ездзілі 7 чалавек, трэнер **Леанід Арцем'еў**). У іх чатыры першыя месцы на рахунку **Яўгена Мучынскага** (1500 м і 3000 м), **Максіма Цераха** (400 м) і **Марыны Колбун** (3000 м). Мучынскі на 3 км пабіў рэкорд спаборніцтваў. Другім быў палачанец **Дзяніс Гіль** на 3 км. Смаргонцы (ездзілі 10 чалавек, трэнер **Станіслаў Барташэвіч**) сталі ў камандзе пятымі. У іх першыя месцы маюць **Дзмітрый Граматоўскі** (800 м) і **Галіна Матышэўская** (трайны скачок), другое месца ў **Вікторыі Радчук** (200 м), трэцяе месца ў эстафеты хлопцаў 4#175.

■ **БОКС**

**МІНСК. Прайшла матчавая сустрэча па боксе нацыянальных зборных Беларусі і Францыі. Гаспадары атрымалі ў ёй перамогу.**

Унёс уклад у гэты поспех **Аляксандр Апанасёнак**, які перамог працўніка ў самай цяжкай вагавай катэгорыі. Сам ён родам са Смаргоні, азам адзінаборстваў навучаўся на Маладзечаншчыне ў трэнера Міхаіла Панцюхова, цяпер займаецца ў Гомельскім ВАРы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ **НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ**

**6-7 снежня, Маладзечна, лёгкаатлетычны манеж**

Рэспубліканскія спаборніцтвы па бегу "Залатая міля"

Пятніца. Эстафеты 4#400 незалежна ад полу і ўзросту. Пачатак у 15-00.

Субота. Адкрыццё ў 11-00. Хлопцы і дзяўчаты па трох узростах прабягуць мілю (1609 м), самыя малодшыя пабягуць вярсту (1097 м), пачынаючы з 11-30 і да 14-00.

**6-8 снежня, Маладзечна, гандлёва-эканамічны каледж**

Занальны турнір чэмпіянату Мінскай вобласці па баскетболу сярод мужчын. Пачатак у пятніцу з 15-00, у суботу і нядзелю з 9-30.

■ ФУТБОЛ, ВЕТЭРАНЫ

# На маладзечанскім турніры перамаглі чэмпіёны СССР

**МАЛАДЗЕЧНА. Зала ЗМК у мінулыя суботу і нядзелю літаральна зіхацела ад зорак савецкага і маладзечанскага футбола.**

Шматлікія гледачы засталіся задаволенымі: і добры футбол паглядзелі, і да зорнага жыцця далучыліся. Мяркуецца, што падобны турнір стане традыцыйным. Яго арганізатарам выступіла фірма "Іўкан", а прызы падрыхтавала ТАА "Белмастацкераміка". Адначасова на пляцоўцы знаходзіліся 5 палявых і варатар. Тайм доўжыўся 20 хвілін "бруднага" часу.

Дынамаўцы перамаглі асноўных канкурэнтаў з "Маладзечна" ў стартавым матчы турніру. Потым яны страцілі ачкі ў сустрэчы з БАТЭ. Гаспадары ж перамаглі астатніх сапернікаў (вельмі ўпартай выдалася іх гульня з тым жа БАТЭ), таму ў апошнім матчы мінчане павінны былі абыгрываць "Жальгірыс". Дуэль камандаў, вароты якіх абаранялі Міхаіл Вергеенка і Вацлавас Юркус, завяршылася на карысць пераможцаў турніру. Не ветэранская каманда "All Stars" выступала па-за конкурсам, прычым перамагала далёка не заўсёды, што дадаткова сведчыць пра баявую форму ветэранаў-удзельнікаў турніру.

Склад каманд (у гасцей адзначаным самых вядомых) і лаўрэаты прызоў:

**"Дынама"**: Валерый Мельнікаў, Павел Раднёнак, Людас Румбуціс (прыз глядацкіх сімпатый), Віктар Сокал (лепшы бамбардзір – 8 галоў), Юрый Трухан, Андрэй Шаліма, варатары Міхаіл Вергеенка і Сяргей Куніца.

**"Маладзечна"**: Уладзімір Галубко (лепшы нападаючы), Аляксандр Гармаза, Аляксандр Лепеш, Віктар Нарожнік, Андрэй Радкевіч, Сяргей Рысік, Аляксандр Субач, Генадзь Талькоўскі, Уладзімір Трус (самы універсальны), Аляксандр Чарняўскі, варатар Вадзім Рыдванскі.

**"Жальгірыс"**: Стасіс Бараускас (лепшы гулец), Вячаслаў Сукрыстаў, варатар Вацлавас Юркус (лепшы варатар).

БАТЭ: Васіль Віскушэнка, Міхаіл Хлус (лепшы абаронца).

**"All Stars"**: Аляксей Антановіч, Аляксандр Вяжэвіч, Сяргей Дарахові, Сяргей і Уладзімір Карыцькі, Віталь Макрыцкі, варатар Уладзімір Асіпенка.

У якасці суддзяў працавалі Уладзімір Жукоўскі, Віталь Казяк і Канстанцін Харламаў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

### Выніковая табліца

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дынама (Мінск) | ## | 2:1 | 6:2 | 5:5 | 7 |
| **2. ФК "Маладзечна"** | **1:2** | **##** | **6:2** | **5:2** | **6** |
| 3. Жальгірыс (Вільнюс) | 2:6 | 2:6 | ## | 8:5 | 3 |
| 4. БАТЭ (Барысаў) | 5:5 | 2:5 | 5:8 | ## | 1 |
| "All Stars" (Маладзечна) | 2:5 | 5:5 | 4:5 | 5:4 | |

# ВІНШАВАНКІ

Віншуем дарагога татачку і мужа **Анатолія Філістовіча** з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, святочнага настрою. *Дочкі і жонка.*

Віншуем дарагую дачушку **Алену Кахновіч** з днём нараджэння! Жадаю здароўя, шчасця, кахання, удачы, добрых сяброў. *Мама.*

**Віталя**, віншую з днём нараджэння! Жадаю поспехаў ва ўсіх тваіх пачынаннях, асабістага жыцця, здароўя. *Любячая дзяўчына.*

Віншуем з днём нараджэння **Ніну Сасноўскую**! Жадаем удачы ў працы і асабістым жыцці, быць заўсёды маладой і прыгожай. *Бушмянковы.*



**Ніну Сасноўскую** віншуем з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы, заставайся такой жа маладой. *Сасноўскія.*

Віншуем **Галіну Бучэль** з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, усяго найлепшага. *Дочкі, зяці, унукі.*

**Тамары Мікалаеўне Арачовай**
з пгт. Беразінскае
Віншуем з юбілеем!



Желаем быть такой же энергичной,
Ну что ж, и чуточку шальной,
И, как сегодня, симпатичной,
И бесконечно молодой.
*Сям'я Пукшы, г. Маладзечна.*

Віншуем з днём нараджэння **Алу Статкевіч**! Жадаем моцнага здароўя, узаемнага кахання, поспехаў ва ўсіх справах, бадзёрасці, аптымізму. *Калегі.*

Віншуем **Наташу Жабко** з 17-годдзем! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе, добрых сяброў. *Мама, тата, сястра.*

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Запяканка з рыбы



Падрыхтаваную рыбу парэзаць на кавалкі, пасыпаць соллю, перцам, укачаць у муку і абсмажыць на алеі з абодвух бакоў. Бульбу зварыць, абабраць, пацерці на буйной тарцы. Асобна абсмажыць дробна нарэзаную цыбулю.

У жароўню, змазаную алеем, пакласці палову падрыхтаванай бульбы, на яе – кавалкі рыбы, пасыпаць яе цыбуляй, зверху – зноў слой бульбы. Усё паліць смятанай і рэштай алею. Запякаць у духоўцы 30 хвілін.

Пры падачы на стол запяканку парэзаць на кавалкі, пасыпаць дробна нарэзаным кропам.

**500 г рыбы (карп, лінь), 500 г бульбы, 3-4 ст. лыжкі алею, 0,5 шклянкі смятаны, 1 цыбуліна, 1 ст. лыжка мукі, соль, перац, зеляніва.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**6-8 снежня**
Камедыя **"Жоўты карлік"**, Расія – у 17.00 (у чацвер – ільготны) і 21.00. Зможаце даведацца пра жанчыну ўсё да канца...
Камедыйны баявік **"Брат Якудзы"**, Японія – у 19.00.
**7 і 8 снежня** – у 15.00 і 19.00. Вайна не на жыццё, а на смерць з мафіёзнымі групоўкамі...

**9-12 снежня**
Захапляльны баявік **"Фарсаж"**, ЗША – у 17.00 і 21.00 (у чацвер у 17.00 – ільготны сеанс).
Відовішчны фільм **"Людзі ў чорным-2"**, ЗША – у 19.00.

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**
7 снежня – "Том і Джэры", **"Чароўнае кальцо"**, ЗША, мультфільмы – у 13.00.
8 снежня – **"Шрэк"**, ЗША, мультфільм – у 13.00.

2-і паверх, БАР. ДЫСКАТЭКА "Медыум". У 21.00 у пятніцу, суботу і нядзелю – для моладзі. У 17.00 у суботу і нядзелю — для школьнікаў.

Кінатэатр "Радзіма" і дыскатэка "Медыум" запрашаюць на калядныя і навагоднія сустрэчы. Вас чакаюць святочная навагодняя дыскатэка, гульні, конкурсы, сюрпрызы ад Дзеда Мароза і Снягуркі, салодкі стол. Прымаюцца калектыўныя заяўкі. Кошт з салодкім сталом – 2500 руб.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.



# ЗНАЁМСТВЫ

Прыемная жанчына пазнаёміцца з мужчынам 50-60 год для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п МС 0535633.

Пазнаёмлюся з дзяўчынай для сур'ёзных адносін. Пра сабе: 34/170/70. Маладзечна-6, МС 0658381.

Жанчына 40/165/66 пазнаёміцца з адзінокім мужчынам, прыемным, без шк/зв., да 45 год. Маладзечна-7, п/п МС 0619894.

## Купон 49

рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

■ ПАДПІСКА-2003

# Падпішыся і выйграй!

**Вечар пры свечках на дваіх, картачку госця маладзечанскага кафэ "Блюз" і іншыя прызы разыгрываюцца сярод падпісчыкаў на "Рэгіянальную газету" на першае паўгоддзе 2003 года. Падпішыся і выйграй прыз ад "Рэгіянальнай газеты"!**

### З палажэння аб розыгрышы прызоў

**У розыгрышы прызоў удзельнічаюць падпісчыкі, якія даслалі на адрас рэдакцыі ксеракопіі або арыгіналы падпісных абанементаў на 1-ы квартал або 1-е паўгоддзе 2003 года на "Рэгіянальную газету". Падпісчык на 1-ы квартал у розыгрышы прызоў мае адзін голас, падпісчык на 1-е паўгоддзе мае два галасы.**

Ксеракопіі або арыгіналы падпісных абанементаў на 1-ы квартал або 1-е паўгоддзе 2003 года на "Рэгіянальную газету" да ўдзелу ў розыгрышы прызоў прымаюцца да **6 студзеня** ўключна. Розыгрыш прызоў адбудзецца ў кінатэатры "Радзіма" ў прысутнасці і з удзелам чытачоў газеты, работнікаў рэдакцыі, аўтарскага актыву.

Вынікі розыгрышу будуць апублікаваныя ў "Рэгіянальнай газеце".

Прызы выдаюцца па прад'яўленні арыгінала падпіснога абанемента, калі ў рэдакцыю была пададзена копія падпіснога абанемента.

**"Рэгіянальная газета".**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь
рэгіянальная газета
63212 (63369) (індэкс выдання)
Колькасць
На 2002 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ месца літара
63212 (63369) (індэкс выдання)
ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА НА ГАЗЕТУ
рэгіянальная газета
Кошт падпіскі
Колькасць
На 2002 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

## Будзь у нашай кампаніі – падпішыся!




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

рэгіянальная газета

**«Рэгіянальная газета» – апошнія падзеі ў наваколлі, карысная рэклама і аб'явы, праграма TV.**
**222310, г. Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а,**
**тэл. (01773)53841, 69667, факс 69667.**
**Тыраж – 9420 экз. Дзень выхаду – пятніца.**
**Аб'ём – 20 старонак фармату А3.**
**Індэкс індывід. падпіскі 63212, кошт на месяц – 1704 р.**
**Індэкс ведамаснай падпіскі 63369, кошт на месяц – 5595 р.**

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Алібі непісьменнага

У кожнага чалавека ў жыцці бываюць чорныя і белыя палосы. У чорную аднойчы трапіў мой добры знаёмы. На працы палаяўся з начальнікам. Па дурасці і ні за што. Спазніўся на апошні аўтобус, і прыйшлося ісці пешшу. Па дарозе дадому каля вялікай лужыны яшчэ і паслізнуўся...

Толькі ў хаце, здавалася, знойдзе спакой. Таму спяшаўся. Прыйшоў позна, але жонка паставілася з паразуменнем. Хутка сабрала павячэраць. А ён пайшоў памыць рукі дый скінуць набрынялую адзежу. Санвузел быў сумесны, і праз усю толькі пафарбаваную сцяну цягнуўся надпіс "Саша – дурань". Літары былі старанна выведзены дзіцячым почыркам. Гэта стала апошняй кропляй.

Усе дома былі падняты на ногі і пастроены ў шарэнгу. А дзяцей было пяцёра. Старэйшыя сын з дачкой здзекліва пасміхаліся, гледзячы на сярэдніх. Бо валодалі добрым почыркам і вучыліся ў старэйшых класах. Сярэднія сын з дачкой рабілі выгляд, што нічога не здарылася. Бацька ўзлаваўся б яшчэ больш, каб не малодшы сынок. Ён смела выйшаў наперад, паглядзеў у вочы і заявіў:

— Татка, гэта не я! Ты ж ведаеш, што я непісьменны!

Ад гэтага засмяяліся ўсе. А бацька, канешне, дараваў. Хоць сказаў назаўтра надпіс зафарбаваць. Што і было зроблена дзеля ўзаемнага задавальнення.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ ІМЯНІНЫ

**6 снежня**
Праваслаўныя: Аляксея, Макара, Рыгора, Фёдара.
Каталіцкія: Мікалая, Эміліяна.

**7 снежня**
Праваслаўныя: Кацярыны, Парфірыя, Сімона.
Каталіцкія: Амбражэя, Марціна.

**8 снежня**
Праваслаўныя: Клімента, Пятра.
Каталіцкія: незаганнае пачацце найсвяцейшай Дзевы Марыі, Лаўрэнцыі.

**9 снежня**
Праваслаўныя: Георгія, Інакенція, Якава.
Каталіцкія: Леакадзіі.

**10 снежня**
Праваслаўныя: Гаўрылы, Захара, Рамана, Усевалада, Якава.
Каталіцкія: Марыі, Юліі, Данеля, Рыгора.

**11 снежня**
Праваслаўныя: Васіля, Івана, Рыгора, Сцяпана.
Каталіцкія: Клары, Дамаза.

**12 снежня**
Праваслаўныя: Парамона, Усевалада.
Каталіцкія: Адэлаіды, Аляксандра.

■ ТВАЁ ІМЯ

# Аляксандр

Імя паходзіць ад грэчаскага і ў перакладзе азначае мужны, абаронца.

Аляксандр заўсёды рашучы, разумны і дасціпны. Таварыскі, але часта бывае запальчывы, дзёрзкі, рэзкі ў дзеяннях, не прытрымліваецца рамак прыстойнасці. Хто хоча ўздзейнічаць на яго з пазіцыі сілы, на поспех разлічваць не можа. Стараецца збегчы ад рэальнасці, хаваецца ў сваёй падсвядомасці. Мае жывое ўяўленне, загадзя апраўдвае дзеянні і паступкі, асабліва калі заслугоўваюць асуджэння. На першы погляд, мае вялізную сілу волі, можа прыкласці ўсе намаганні для дасягнення мэты, але ў яго рашучасці прысутнічае ўсё ж нейкая доля нерашучасці, хісткасці. У настойлівасці ёсць нейкае хваляванне, яно і падкрэслівае вызначаную зменлівасць характару. Артысты ці журналісты з гэтым імем могуць перадаць вобраз чалавека з незвычайнай праўдападобнасцю. Сяброўства ўспрымае глыбока, і нярэдка страснае каханне перарастае ў яго ў моцнае сяброўства.

Яго не прыцягвае навука, а калі і прыцягвае, то ў асабістых мэтах. Гэта тып незалежнага адзіночкі, які не пераносіць педагагічны працэс у школе, дзе трэба вучыцца па прымусу. У Аляксандра артыстычная натура. Можа стаць таленавітым акцёрам, рэжысёрам, канферансье, работнікам радыё і тэлебачання, але можа быць і адзінокім падарожнікам, мараком, юрыстам. Мае сінтэтычны склад мыслення. Мае надзейную памяць і неймаверную цікаўнасць. Яго цяжка зразумець, ён вельмі незалежны, хаця і імкнецца да прыстанішча, дзе б ён знайшоў клопат і бяспечнасць. Сапраўдны Аляксандр адкрываецца толькі пасля паступкаў, якія супярэчаць нормам маралі. Тады Аляксандр зрывае заслону загадкавасці і шукае дапамогі ў сяброў.

Часта ён чакае чагосьці немагчымага і праходзіць міма рэальнай магчымасці. Гэты мужчына ўсё жыццё мае патрэбу ў моцным парнёры – маці ці жонцы.

